ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 6 (2460) 8 лютага 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

НОВАЕ ЖЫЦЦЁ ПОМНІКАЎ СТАРАЖЫТНАГА МАСТАЦТВА

## СВЯТА БЛІЗКІХ ПА ДУХУ ЛЮДЗЕЙ

Да гэтай выставы супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі прыйшлі цярністымі шляхамі. Збор абразоў у зачыненых і занядбаных храмах розных канфесій пачаўся 25 год назад супрацоўнікамі сектара "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі". Музея яшчэ не было. Першую экспедыцыю ўзначаліла цяпер ужо нябожчыца Вольга Церашчатава. Багатая спадчына (абразы, алтарныя карціны, скульптура), якую ўбачылі навукоўцы ў яшчэ не знішчаных храмах, ускалыхнула іх сэрцы. Гэта было сапраўднае адкрыццё беларускай мастацкай спадчыны. Аб ёй ніхто нічога не ведаў у той час. Ідэя стварыць музей узнікла імгненна. Адразу ж паўстала складаная праблема — усе творы неабходна было рэстаўраваць. І гэтая справа рухалася вельмі марудна, бо ў Беларусі не было неабходнай колькасці рэстаўратараў. Звярталіся па дапамогу да расійскіх спецыялістаў, там жа рыхтавалі і першыя кадры. А фарбавы слой многіх абразоў паціху абсыпаўся, асабліва ў апошнія пяць гадоў, калі фінансаванне рэстаўрацыйных работ амаль спынілася ў музеі. І абразы ўдалося выратаваць толькі дзякуючы шчасліваму выпадку...

Летам 1994 года музей наведала Элізабет Смідлі — кіраўнік Беларускага фонду Сораса. [illegible]жаная багаццем калекцыі, [illegible] прапанавала распрацаваць праект рэстаўрацыі і прапаганды помнікаў старажытнабеларускага мастацтва. А ў снежні таго года ідэя ператварылася ў пр[illegible]т "Рэстаўрацыя, вывучэнне і [illegible]паганда помнікаў старажытнабеларускага мастацтва" дзякуючы падтрымцы кіраўніка культурных праграм фонду Сораса Алеся Анціпенкі. На гэту працу фонд Сораса выдаткаваў 19,5 тысячы долараў.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

**НА ЗДЫМКУ: Маці Божая Бялыніцкая. Другая палова XVIII стагоддзя.**



## З КУПАЛАМ У СЭРЦЫ



Створаны зусім нядаўна Міжнародны фо[illegible] Янкі Купалы распачаў сваю работу. Гэта гра[illegible]мадская арганізацыя будзе не толькі спрыяць прапагандзе творчасці славутага песняра, але папрацуе на ўсю беларускую культуру. Імпрэзай, прысвечанай 50-годдзю творчай дзейнасці лаўрэата прэміі імя Янкі Купалы Ніла Гілевіча, фонд і музей паэта распачалі цыкл вечароў "З Купалам у сэрцы".

Нібы спавядаючыся перад сваімі слухачамі, паэт Ніл Гілевіч сказаў, што ў гэтай хаце хочацца гаварыць пра Івана Дамінікавіча. Ніводзін сур'ёзны літаратар не скажа, што ён падняўся сам па сабе, бо ўсведамляе, што пачынаецца ён са сваіх папярэднікаў. Той, хто ўжо нешта зрабіў у літаратуры, можа таму і зрабіў, што перад ім былі Купала, Колас, Багдановіч, Гарэцкі, Гарун. Ніл Гілевіч нарадзіўся на Лагойшчыне, у тых самых мясцінах, дзе з маленства жыў Янка Купала, дзе жылі яго родныя, на адных могілках пахаваны бацька Купалы і Гілевіча. Ужо ў сталым узросце ў Ніла Сымонавіча з'явілася шкадаванне, што ў свой час не распытаў дзеда пра маладога Луцэвіча. Дзед быў знакамітым музыкам, граў вяселлі, і на гэтых вяселлях равеснікі маглі сустракацца.

У сваёй творчасці паэт Ніл Гілевіч часта звяртаецца да Янкі Купалы, у многіх яго вершах так ці інакш згадваецца імя яго слыннага папярэдніка.

Пісьменнік і вучоны Вячаслаў Рагойша, выступаючы на вечары, найперш адзначыўшы паэтычны талент Ніла Гілевіча, аддаў належнае яго вялікай плённай працы фалькларыста, даследчыка, літаратуразнаўцы, перакладчыка, грамадскага дзеяча.

Нібы выконваючы запавет Янкі Купалы, Ніл Гілевіч шчыра змагаецца за нацыянальнае адраджэнне, за родную мову, за незалежнасць і самастойнасць сваёй Бацькаўшчыны.

Д. ЧАРКАСАВА.

НА ЗДЫМКУ: вечарына ў музеі Янкі Купалы. Выступае Ніл ГІЛЕВІЧ, побач дырэктар музея Жанна ДАПКЮНАС, супрацоўніца музея Людміла ДАВІДОЎСКАЯ і Вячаслаў РАГОЙША.

Фота Віктара СТАВЕРА.

ЗАМЕСТ ЮБІЛЕЙНЫХ НАТАТАК

## КАЗАЎ УЛАШЧЫК...

*"Слова есть поступок".*

Л. ТОЛСТОЙ.

**Многія з бліжэй знаёмых Мікалая Мікалаевіча падзіўлялі ў ім дар расказчыка. Слухалася яго заўсёды з асалодай, нават калі і не без гарчынкі. Усім вабіў, прыцягваў субяседнік. Высокай, пад асілка, постаццю, гожым абліччам. А найперш -- легендарнасцю свайго няпростага жыцця, да рэшты мабыць выпрабаванага на чалавечнасць, беларускасць, вучонасць, на іншыя прыкметныя якасці ў гэтым абаяльным чалавеку.**

**Большасць гадоў выпала яму правесці за межамі Беларусі. Увесну 1931 года, пасля карнай аперацыі ГПУ над беларускай творчай элітай, давялося нядаўняму выпускніку універсітэта падзяліць выгнанніцкі лёс з віднейшымі патрыётамі-адраджэнцамі -- Вацлавам Ластоўскім, Язэпам Лёсікам, Мікалаем Азбукіным, Максімам Гарэцкім, Адамам Бабарэкам, Уладзімірам Жылкам,.. усіх не пералічыць.**

**І ўсё ж Улашчыку пашчасціла. Праз пакуты, выпрабаванні, але вытрымаў, выжыў. Каб сказаць сучаснікам і патомным праўду за сябе ды за тых, хто не вярнуўся. Улашчыкава праўда -- Беларусь. Створаная ім магутная Краіна Духа -- з уласнай вялікай гісторыяй, высокай культурай, з мужным і працавітым, лірычным і дасціпным народам. Краіна непадуладная разнамасным пігмеям, духоўным карлікам -- колькі б тыя ні нявечылі, ні аплёўвалі ейную плоць і душу.**

**Размоўцу нашага ўспрымаеш жывым увасабленнем лепшых рысаў суродзічаў. Такім сабе Беларускім Чалавекам, скрозь заклапочаным адвечнымі пытаннямі беларускімі: мінулым і будучыняй, роднай мовай, нацыянальнай годнасцю, наогул гістарычнай трывучасцю Беларусі як самастойнае краіны, самабытна-непаўторнага тыпу духоўнасці.**

(Працяг на 4-й стар.).

ЭКАНАМІЧНЫ ДАЙДЖЭСТ

# ЭКСПАРЦЁРЫ ПАДЛІЧВАЮЦЬ СТРАТЫ 1995 ГОДА

**Добрым выйсцем мог бы стаць для Беларусі экспарт. Ва ўмовах збяднення большасці прадпрыемстваў, нізкай плацежаздольнасці насельніцтва толькі продаж вырабаў за мяжу дае рэальныя грошы, на якія можна "раскручваць" вытворчасць, закупляючы сыравіну і матэрыялы, абнаўляючы асноўныя фонды.**

**Схема гэтая простая і зразумелая, а для рэспублікі і жыццёва неабходная, паколькі былы агульны рынак СССР, як шчыгрынавая скура, "скурчыўся" апошнім часам да памераў унутранага рынку Беларусі. Для буйных вытворчасцей, якія ёсць у кожнай галіне, ён занадта малы. І прыярытэт у гэтых умовах на дзяржаўным узроўні павінен аддавацца экспарцёрам. Іх трэба ўсяляк зацікавіць у павелічэнні продажу тавараў за межы рэспублікі: прадаставіць ільготы, даць магчымасць атрымліваць крэдыты на выгадных умовах, у рэшце рэшт, прысуджаць лепшым званне "Экспарцёр года", як робіцца ў іншых краінах.**

**На справе ж працаваць на экспарт становіцца ўсё больш цяжка. Экспарцёры вымушаны пераадольваць цэлую "паласу перашкод", накіроўваючы свае тавары за мяжу. У 1995 годзе экспарт складаных тэхнічных тавараў -- а менавіта ён найбольш выгадны ў свеце -- скараціўся па многіх пазіцыях на 20--50 працэнтаў у параўнанні з папярэднім годам. Калі ж параўноўваць з 1990-м годам, то лічбы яшчэ больш сумныя: 40--85 працэнтаў.**

**Яўген СЕЛІВОНЧЫК, намеснік генеральнага дырэктара вытворчага аб'яднання "БелаўтаМАЗ".**

Аб развіцці гаварыць не даводзіцца. Наадварот, апошнім часам роля экспарцёраў была значна прыніжана -- грамадская думка часам настройвалася супраць тых, хто, па сутнасці, зарабляе для рэспублікі валюту, з'явіліся выказванні аб тым, што прадпрыемствы гандлююць сабе ў страту, за што расплачваецца народ. Усё гэта вельмі сумна, знешнія рынкі напрацоўваліся дзесяцігоддзямі, а страціць іх можна ў адзін момант. Для экспарту ў рэспубліцы няма альтэрнатывы пры нашым вузкім унутраным рынку і дастаткова добра развітой прамысловасці. На вялікі жаль, у 1992--1994 гадах улады недаацэньвалі значэнне экспарту, не прапаноўваючы амаль ніякай падтрымкі. Нам толькі раілі: вырабіце канкурэнтаздольную танную прадукцыю і гандлюйце з Захадам, як усе ў свеце. А для таго, каб паставіць экспарт на надзейныя рэйкі, трэба стварыць пэўныя ўмовы для гэтага.

1995 год, па маёй ацэнцы, быў таксама нярадасным у збыце складаных тэхнічных тавараў. Акрамя іншых цяжкасцей, экспарцёры сутыкнуліся з тым, што ў сілу розных прычын рэзка стаў расці сабекошт экспартнай прадукцыі: за год у сярэднім ён павялічыўся на 200 працэнтаў і больш.

Насуперак распаўсюджанаму меркаванню скажу, што, напрыклад, мінскія аўтамабілі па сабекошту больш танныя за вырабляемыя на Захадзе. Гэта і дазваляла нам актыўна ўкараняцца на замежных рынках. Аўтазавод пачаў актыўна працаваць, напрыклад, у Лацінскай Амерыцы, дзе мы выйшлі на першае месца па пастаўках аўтамабіляў, абагнаўшы мясцовых вытворцаў і нават "Мерседэс-Бэнц". Была арганізавана дыстрыб'ютарская сетка, у якую лацінаамерыканскія партнёры зрабілі інвестыцыі. Але ў чэрвені мы вымушаны былі сказаць: панове, кошт аўтамабіля павялічваецца ў 1,5--2 разы. Увогуле, калі ўзяць дынаміку экспартных продажаў аб'яднання "БелаўтаМАЗ", то да мая мы ішлі бадзёра, пад гукі бравурнага марша, але потым, калі крывая росту сабекошту пайшла ўгару, пачаліся вялікія праблемы. Сусветная практыка паказвае, што нават у выніку мадэрнізацыі прадукцыі цану аднаразова можна павялічваць на 5 працэнтаў. Мы ж вымушаны былі павялічваць на 40--50 і нават 100 працэнтаў. Я думаю, зразумела: тут няма віны вытворцаў, якія нібыта раптоўна павялічылі выдаткі.

Чаму сабекошт вырас? Па-першае, пры рэзкім спадзе вытворчасці колькасць калектываў так рэзка не скарацілася. Ды мы і не маем права гэтага рабіць. Прэзідэнт рэспублікі на адкрыцці сесіі новага парламента яшчэ раз папярэдзіў кіраўнікоў прадпрыемстваў, што яны нясуць адказнасць за захаванне колькасці сваіх калектываў. Значыць, зніжаць выдаткі за кошт гэтага фактара нельга, і мы вымушаны трымаць на прадпрыемствах неабгрунтавана павялічаную колькасць рабочых...

Па-другое, амаль усе, з кім даводзіцца мець справу, цягнуць "цэнавую коўдру" на сябе. Сёння пануе сапраўдны разбой на чыгунцы і марскім транспарце. Прывяду прыклад. Апошнім часам мы актыўна гандлявалі з Карэяй, Кітаем. Але сёння даставіць туды адзін аўтамабіль каштуе 4 тысячы долараў. Мы ўжо вымушаны адмаўляцца ад паслуг беларускіх чыгуначнікаў і шукаць камерцыйныя структуры ў Расіі, якія перавозяць грузы значна танней.

І, безумоўна, "абцяжарваюць" цэны вялікія падаткі. Возьмем, скажам, падатак на бартэр. Так, я згодны: просты тавараабмен -- першабытны спосаб. Там, дзе дзейнічае формула "тавар--тавар", абавязкова нехта нажываецца. Бартэрны абмен у рамках клірынгу, напрыклад, даў магчымасць многім расійскім фірмам прадаваць нашы аўтамабілі па цэнах, ніжэйшых за заводскія на 30--40 працэнтаў, ажыццяўляць "дзікі" рээкспарт нашай прадукцыі ў сумежныя дзяржавы па нізкіх цэнах, складаючы канкурэнцыю вытворцам і адбіваючы ў іх тым самым рынкі. Але на сённяшні дзень пры адсутнасці ў многіх прадпрыемстваў з СНД грошай вытворцы тэхнічна складанай прадукцыі вымушаны збываць да 80 працэнтаў яе па бартэру. Гэта не наш капрыз, нам, вядома, лепш гандляваць за грошы.

Калі такое становішча будзе захоўвацца, што зусім магчыма, то беларускія вытворцы "пабягуць" туды, дзе працаваць больш выгадна -- у тыя ж краіны Лацінскай Амерыкі. У іх, між іншым, дзейнічаюць законы, якія дазваляюць максімальна знізіць падаткаабкладанне, калі ствараецца сумесная вытворчасць, у якой выкарыстоўваецца 40 працэнтаў мясцовых камплектуючых. Мы, дарэчы, думаем аб арганізацыі ў адной з лацінаамерыканскіх краін зборачнай вытворчасці МАЗаў...

Акрамя таго, беларускі экспарт хутка зніжаецца без фінансавання мадэрнізацыі вытворчасці. Але гэта вымагае каласальныя затраты. Каб давесці той жа самы дызель да еўрапатрабаванняў, неабходны дзесяткі, а, можа, і сотні мільёнаў долараў. Тое, што трэба прыцягваць замежныя капіталы, стала своеасаблівым лозунгам. Для іх рэалізацыі трэба вызваліць ад усялякага падаткаабкладання сродкі замежных інвестараў, накіраваныя на развіццё вытворчасці. Мы многа праводзілі наконт гэтага перагавораў, замежнікі з вялікай асцярожнасцю ставяцца да пытання захавання сваіх грошай у нашай эканоміцы. Працяглы час мы просім забяспечыць ільготнае крэдытаванне прадпрыемстваў-экспарцёраў, ды і ўвогуле з мэтай развіцця экспартнага патэнцыялу было б добра стварыць спецыяльны экспартны банк. Нам пярэчаць: чаму патрабуецце "цяплічных" умоў для экспарцёраў? Адказваю: для таго, каб іх не "зарэзаць" зусім!

Спадзяемся, што сёлета з'явіцца больш рыначных інструментаў, якія дазволяць працаваць эфектыўней. Адзін з іх -- лізінг. Усе, напэўна, заўважылі, што замежныя аўтамабілебудаўнікі цяпер актыўна ўкараняюцца ў беларускія, расійскія, украінскія і іншыя транспартныя кампаніі. Мой калега з канцэрна "Рэно" прызнаўся, што продажу машын у СНД садзейнічаюць умовы лізінгу, па якіх першапачатковы плацеж для пакупніка складае ўсяго 10--15 працэнтаў, хаця вытворца праз лізінгавую кампанію атрымлівае грошы адразу. Гэтае пытанне вельмі сур'ёзнае. Мы ўжо пачалі такую работу з заходнімі кампаніямі, і тут таксама патрэбна падтрымка дзяржавы, таму што лізінгавым фірмам, якія плацяць вытворцам грошы, таксама неабходны гарантыі.

**Уладзімір СВЕРКУНОЎ.**
*("Нацыянальная эканамічная газета").*



**Пачынаючы са "слаўных" рэвалюцыйных гадоў, соль і запалкі ў нашай краіне -- традыцыйна самая вялікая каштоўнасць у крызісны перыяд. У часы войнаў, грамадзянскай і Айчыннай, а таксама пасляваеннай разрухі на іх можна было вымяняць вопратку, сала, хлеб. Час бяжыць няўмольна, але, здаецца, пад зоркамі нічога не мяняецца: зноў выпрабаванні, зноў запалкі. Праўда, сёння яны, дзякуй Богу, не дэфіцыт. Хутчэй за ўсё, на Гомельскім фанерна-запалкавым камбінаце запалкамі выдалі заработную плату: на прадпрыемстве няма грошай, і гэта адзіная магчымасць адміністрацыі хоць як-небудзь разлічыцца з рабочымі за працу. Тэарэтыкі кажуць: грамадства развіваецца па спіралі. Вось толькі нейкая дзіўная атрымліваецца ў нас тая спіраль: замест руху ўверх, апускаемся ніжэй і ніжэй, ужо дайшлі да натуральнага абмену: ты мне кіло запалак, я табе -- кіло солі. Соль і запалкі -- сапраўды самы надзейны тавар у цяжкія часы...**

# НЕБЯСПЕКА АВАРЫЙ І КАТАСТРОФ ЗАСТАЕЦЦА

Як надзейна жыхары Беларусі абаронены ад уздзеяння прыродных ды тэхнагенных катаклізмаў? Пасля чарнобыльскай катастрофы гэтае пытанне набыло для нашай краіны асаблівую актуальнасць. Нядаўна адбылася прэс-канферэнцыя кіраўнікоў шэрагу дзяржаўных органаў, якія займаюцца прадухіленнем і ліквідацыяй аварый і катастроф.

Чорнай бяды, роўнай па маштабах і наступствах аварыі на ЧАЭС, на шчасце, Беларусь у мінулым годзе не зведала. Тым не менш, як вынікае з прэс-канферэнцыі, у параўнанні з папярэднім годам летась прыроднае ды тэхнагеннае становішча нашай краіны было больш напружаным. Колькасць надзвычайных сітуацый склала 3 697.

Сумнае лідэрства сярод іх трымаюць пажары. Найбольшую небяспеку яны нясуць лясам ды тарфяным балотам, дзе леташні ўрон ад іх склаў 14 800 мільярдаў рублёў. Прынамсі, выступленне кіраўніка службы пажарнай аховы краіны генерала Валерыя Астахава настройвае на аптымістычную перспектыву: вынайдзена рэчыва, выкарыстанне якога ў пажаратушэнні дасць значны эфект.

Калі Беларусі наканавана ў будучыні менеи гарэць у агні, то прагноз старшыні камітэта па гідраметэаралогіі Юрыя Пакумейкі больш песімістычны ў адносінах да іншых прыродных стыхій. Былі засухі і паводкі ў мінулым годзе, чакаюцца яны і сёлета. Таму палешукам з Брэстчыны ды Гомельшчыны ўжо зараз варта рыхтавацца да вясновых разліваў Прыпяці ды Гарыні, якія звычайна нясуць вялікія эканамічныя страты і сацыяльныя беды тутэйшым мясцінам і іх насельнікам.

Міністр па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў катастрофы на ЧАЭС Іван Кенік папрасіў журналістаў данесці грамадскасці свае трывогі з нагоды рэальнай і патэнцыяльнай небяспекі ў Беларусі тэхнагенных аварый. Летась, напрыклад, па краіне было адзначана 9 аварый з разлівам моцнадзеючых атрутных рэчываў, 4 выпадкі крадзяжу радыеактыўных матэрыялаў, 17 аварый на чыгуначным транспарце. Вялікая небяспека -- забруджванне водных крыніц. У гэтай сувязі быў прыгаданы адзін з мінулагодніх выпадкаў, што адбыўся ў пасёлку Бальшавік Мінскага раёна, дзе ў выніку забруджвання пітнога трубаправода было атручана каля 2 тысяч чалавек.

Асаблівы клопат міністра Кеніка, паводле яго слоў, выклікае тэхнічны стан хімічнай прамысловасці. "Хімія, -- сказаў ён, -- якая ў свой час вывела Беларусь у перадавыя рэспублікі СССР, зараз мае састарэлае абсталяванне, якое нясе вялікую пагрозу аварый на прадпрыемствах гэтай галіны".

Такі ж пункт гледжання на яе выказаў на прэс-канферэнцыі і старшыня камітэта "Праматамнагляд" Уладзімір Яцэвіч. Сярод прадпрыемстваў, сродкі вытворчасці якіх выпрацавалі свой тэхнічны рэсурс і таму нясуць у сабе найбольшую пагрозу хімічных аварый, ён назваў гродзенскае вытворчае аб'яднанне "Азот", Магілёўскае вытворчае аб'яднанне штучнага валакна, наваполацкія прадпрыемствы "Нафтан" і "Палімір". Гэтая ж прычына -- крайняя састарэласць абсталявання -- робіць аварыйна небяспечнымі іншыя галіны нацыянальнай эканомікі. На падставе леташніх праверак падкантрольных аб'ектаў інспектары "Праматамнагляду" каля 4 тысяч разоў спынялі іх функцыянаванне, каб папярэдзіць аварыі, якія пагражаюць здароўю людзей. Кіраўнікі нафтагазавага комплексу краіны, у якім летась адбылося дзевяць буйных і дробных аварый на нафта- і газаправодах, праблему іх тэхнічнай небяспекі таксама звязвалі на прэс-канферэнцыі са зношанасцю фондаў, недахопам фінансавых сродкаў на іх замену.

Агульным у выступленнях адказных кіраўнікоў краіны было нараканне на глыбокую абыякавасць і слабую службовую дысцыпліну ўпраўленчых структур, ад якіх залежыць бяспека грамадзян Беларусі. Падаецца, такім чынам, што чарнобыльская катастрофа не стала для іх памятнай і, галоўнае, павучальнай падзеяй. У сувязі з аднаўленнем дзейнасці Вярхоўнага Савета прамоўцы аднадушна выказалі патрэбу ў прыняцці новым парламентам шэрагу наспеўшых законаў, накіраваных на папярэджанне ў нашай краіне надзвычайных сітуацый.

**Міхась СТЭЛЬМАК.**
*("Нацыянальная эканамічная газета").*

*ВОДГУЛЛЕ*

# ХАЙ ДАПАМОЖА ВАМ БОГ

Паважаны рэдактар!

З недаверам і смуткам чытаў у "Голасе Радзімы", N 47, у раздзеле "Весткі адусюль", пра "круглы стол" у Гродне, дзе рэдактар газеты "Глос з-над Нёмна", якісь пан Яўген Скрабацкі, заклікаў прысутных выступаць у прэсе за змену цяперашніх граніц Беларусі з Польшчай і каб тэрыторыі на захад ад Нёмана вярнуць Польшчы дзеля "гістарычнае справядлівасці".

Мне аж не верыцца, што да гэтае пары жывуць на беларускай зямлі людзі, якія адкрыта выступаюць супраць суверэнітэту Беларусі і ўсяго, што ёсць беларускае, яны адкрыта топчуць нашу годнасць, адкідаюць гістарычную праўду. Гэтыя людзі ўжо выступаюць супраць дзяржаўнай самастойнасці Беларусі і спадзяюцца, што заходні ці ўсходні сусед усе эканамічныя праблемы ім развяжа.

Не ведаю, ці пан Скрабацкі жыў у Беларусі пад польскай акупацыяй. А я там нарадзіўся і жыў да 1939 года. І ведаю, што гэтыя землі ніколі з волі беларускага народа да Польшчы не належалі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года і развалу Расійскай імперыі палякі, беларусы, украінцы і іншыя народы, якія сілаю былі ўключаны ў царскую імперыю, дэкларавалі сваю незалежнасць. Беларускі народ 25 сакавіка 1918 года ў Мінску на з'ездзе дэпутатаў з усёй этнічнай тэрыторыі Беларусі Актам 25 сакавіка дэкларавалі незалежную і суверэнную Беларускую дзяржаву.

Існаванне незалежнай Беларусі было кароткае. Маладая краіна без дапамогі з Захаду не змагла супрацьстаяць бальшавіцкай навале. У 1920 годзе бальшавікі акупіравалі Беларусь і дайшлі аж да Варшавы. Там, дзякуючы дапамозе палякам з Францыі і Англіі, здарыўся так званы "цуд над Віслай". Бальшавікі былі адкінутыя аж пад Мінск.

У 1921 годзе ў Рызе быў падпісаны ганебны для Беларусі так званы Рыжскі трактат. Без згоды беларускага народа Беларусь была падзелена між Польшчай і бальшавікамі. Польскі ўрад беларусам заходняй Беларусі згадзіўся даць частковую аўтаномію. Але гэта толькі на словах. Беларусы самі змагаліся за сябе, скарыстаўшы нагоду. Пачалі адкрываць школы, арганізоўваць гаспадарчыя і культурныя гурткі, свае кааператывы. У каталіцкіх касцёлах служба вялася на роднай мове. У Сойм і Сенат былі выбраны беларускія дэпутаты. Беларускае эканамічнае і культурнае жыццё пачало развівацца дынамічна. Усё гэта напалохала польскі ўрад у Варшаве. Яны бачылі, што тут пачала тварыцца беларуская дзяржава ў рамках польскай дзяржавы. Каб гэтаму процістаяць, палякі пачалі засяляць беларускія землі польскімі асаднікамі. Пачалі закрываць беларускія школы і замяняць на польскія, настаўнікаў высылаць у Польшчу або звальняць з работы. Каталіцкае беларускае духавенства пачалі высылаць у Польшчу, калі які святар на гэта не згадзіўся, то ён быў высланы ў місіянеры, як прыкладам, ксяндзы Абрамовіч, Татарыновіч, Гадлеўскі, Германовіч і многа іншых. Гэты гвалт над беларускім народам зварушыў беларусаў. Пачаліся адкрытыя антыпольскія выступленні. Палякі з гэтым востра распраўляліся: арыштоўвалі нацыянальна свядомую інтэлігенцыю, судзілі і садзілі ў турмы. Палітыка польскага ўрада была накіравана на тое, каб выкараніць беларускую інтэлігенцыю. У касцёлах польскія ксяндзы адпраўлялі службы толькі на польскай мове. У школах і дзяржаўных установах ужывалася толькі польская мова, гэта ўсё давяло да падзелу вёскі і горада, бо вёска надалей ужывала толькі беларускую мову, а горад пачаў гаварыць на польскай. Гэта таксама давяло да падзелу насельніцтва па рэлігійных канфесіях. Каталікі, хай яны і беларусы, пачалі лічыць сябе палякамі. На жаль, гэта існуе ў Беларусі да цяперашняга часу: беларусы-католікі не хочуць быць беларусамі.

У 1939 годзе пачалася вайна між Польшчай і Нямеччынай. Савецкі Саюз гэтую нагоду выкарыстаў і прылучыў Заходнюю Беларусь да Усходняй. Беларускі народ Саветаў вітаў з адкрытымі рукамі.

Аб'яднанне Беларусі ў адну рэспубліку народ вітаў з радасцю. Але гэтая радасць доўга не жыла. Пачаліся сталінскія рэпрэсіі. Напачатку ліквідацыя былой польскай адміністрацыі, асаднікаў і заможных сялян-"кулакоў".Пачаліся начныя арышты і вывазы ў далёкую Сібір. Ад падобнага лёсу не ўцякла і свядомая беларуская інтэлігенцыя. Адміністрацыйныя пасады ў Заходняй Беларусі былі запоўнены рускімі камуністамі. У 1941 годзе пачынаецца вайна м[illegible] Савецкім Саюзам і Нямеччынай [illegible]мецкія войскі хутка акупіруюць усю Беларусь. І зноў пачынаецца здзек з беларускага народа: расстрэлы, вывазы на работы ў Нямеччыну.

Сталін у перагаворах з польскім урадам на [illegible]грацыі дазваляе палякам арган[illegible]аваць сваю армію з людзей, высланых у Сібір у 1940 годзе. У польскую армію ўступіла многа беларусаў, вывезеных Сталіным у Сібір. Яны змагаліся супраць нямецкіх войск у Афрыцы пад Тобрукам, у Італіі пад Монтэ-Касіна, Форлі і ў іншых месцах у Заходняй Еўропе. Яны паклалі свае галовы ў бітвах на славу Польшчы і еўрапейскіх народаў супраць гітлераўскай Германіі.

На жаль, польскія гісторыкі пра беларусаў у польскай арміі нічога не ўспамінаюць. Я сам, як і многа маіх сяброў, служыў у арміі Андэрса ў Італіі. Вось гэты кароткі нарыс гісторыі Беларусі за астатніх 70 гадоў паказвае, што нашы "апекуны" абаранялі свае інтарэсы, а не інтарэсы беларускага народа.

Я ўпэўнены, што вышэйпамянёная трагедыя беларускага народа не паўторыцца. Народ прачнецца ад сну, незалежна ад рэлігійных канфесій, пачне адбудоўваць вольную і незалежную Беларусь. Хай усемагутны Бог вам у тым дапаможа.

З пашанай

**Сыльвестр БУДКЕВІЧ.**

Англія.

# КАЗАЎ УЛАШЧЫК...

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

**Пытанні гэтыя, як заўважыць чытач, і складалі вядучую, скразную тэму роздумаў гісторыка, а лепш сказаць, беларускага асветніка.**

**Па-рознаму можна разглядаць прапануемы жанр: успаміны, развагі, думкі ўслых... Але справа не ў фармальнай маркіроўцы, хутчэй у сутнаснай напоўненасці тэксту. *Казаў Улашчык* -- гэтага, лічу, дастаткова. Тым болей, што ў творчай спадчыне нашага Беларусіна не заўважаеш нічога дробязнага, малавартаснага. Бадай ці не ўсё ім напісанае, гаворанае поўна думак і сэнсаў, на спасцiжэнне якіх досыць будзе прыемнасці пэўна не аднаму пакаленню беларусаў.**

**Прапануемыя чытацкай увазе нататкі -- вынік сустрэч, гутарак з Мікалаем Мікалаевічам на працягу апошніх чатырох гадоў (1983--1986) ягонага жыцця. Спрыяла нашым кантактам апрача ўсяго і суседства ў Маскве, блізу Беларускага вакзала. Запісы звычайна рабіліся мною ў працэсе або адразу ж пасля размовы. Фактычны змест, стыль маўлення субяседніка (хадзеце, увядзеце, гадох...) аўтэнтычныя, амаль дакладныя. Кажу "амаль", бо дакладнасць не стэнаграфічная. Тым не менш, усё тут Улашчыкава: думкі, словы, настрой.**

**Мне заставалася толькі сістэматызаваць сказанае Настаўнікам, даць загалоўкі, па магчымасці адэкватныя парушаным пытанням. І такім ладам -- адгукнуцца на 90-я ўгодкі нашага выдатнага мысляра, адраджэнца-падзвіжніка Беларусі.**

**Аляксей КАЎКА.**

## БАЦЬКІ, РАДЗІМА

Бацька ведаў на сто кіламетраў ад нашай Віцкаўшчыны ці не кожан паварот -- дзе ехаць, дзе зварочваць. Казаў нам, дзецям, пра замак Чапскіх, пасля Прылук, на самым узгорку. Дадумаліся пазней -- пад дом адпачынку аддаць. Няхай бы пад гістарычны музей. Яшч[illegible] на маёй памяці заставаліся парабчанс[illegible]ты ў Прылуках. Замест каб апісаць, як [illegible]рабкі жылі, дык яны "спачуваюць" ім. А гумно ў 1922 годзе спалілі з усёй маёмасцю.

***

Бацька вельмі за кап[illegible]трымаўся. Але прачытаў больш за со[illegible] кніг. У Менск ездзіў разы два на месяц да прыватнай бібліятэкі Станішэўскага. Браў за невялікую плату колькі кніг і чытаў вечарамі, над "Аннай Карэнінай" плакаў нават. Ад бацькі і дзеці, пакуль у школу хадзіць, чытаць панавучваліся.

Сфатаграфаваўся ён з братам маім старэйшым, які на лесніка вывучыўся -- паніском стаў! Бацька сядзіць, у манішцы з гальштукам, брат за ім стаіць. Дык я пазней забраў той здымак і ў мастацкае фота занёс: асобна бацькаў партрэт зрабіць. Усе глядзяць: які ж гэта мужык? Панам глядзіцца! А гэты "пан" праз усе гады тапара ці гэбліка з рук не выпускаў. За што і раскулачылі. Скончыў жыццё ў Котласе; на вайсковых могілках у Менску пахаваны. На пліце радня надпіс зрабіла: "Мікалай Феліцыянавіч Улашчык. 1861--1934". Зянон Пазьняк кажа, мусіць гэта адзіны надпіс надмагільны па-беларуску. Цяпер на месцы пахавання клумбу зрабілі.

А дзедавы магілы -- там, у Віцкаўшчыне. Каб і мой попел -- туды.

***

Маці, Софія Восіпаўна, -- яна з Іваноўскіх, з-пад Шчорсаў паходзіла. Так што я ў пэўным сэнсе таксама наваградзец. Янку Брылю кнігу сваю падпісаў -- як земляку.

Добрай, далікатнай была наша маці. І строгай, калі трэба. Трымалася свайго кодэксу педагагічнага: дзяцей шкадуй, але і волі залішне не давай. Як каторае правінілася -- дубец з веніка напагатове. Не сказаць каб часта, але, здаралася, дубцы хадзілі па спінах. Пакаранаму ж балела не гэтулькі ад дубца, як ад таго, што дражнілі сёстры ці браты: "Зарабіў? Хвасанула мама!". Крый Божа, каб пры мацеры хто лаяўся або ўспамінаў чорта. Заўсёды -- рана і ўвечары -- дзеці чыталі пацеры. Калі падраслі, перасталі хадзіць да споведзі --маці надта перажывала.

***

У 1912-м, на Новы год, у Самахвалавічах ёлку ставілі. Там нейкі хлапец "Горад і вёску" на памяць прачытаў. Прыйшоў брат дамоў, прачытаў, і я ўсё таксама запомніў. Сёстры -- ім не менш спадабалася, адразу запомнілі. Такое было ўражанне моцнае:

**Бог хоць раз прывёў Гаўрылу ў<br>
вельмі горадзе пабыць,<br>
Але мілу сваю вёску не<br>
магу ніяк забыць.<br>
Як я доўга не пабачу сваю<br>
хату, поле, луг,<br>
Жаль і гора, чуць ня плачу, тут<br>
я целам, тут мой дух.<br>
Там табе усе знаёмы,<br>
свой парадак, свой народ,<br>
Не ляпей нідзе як дома -- тут дзень<br>
пройдзе як там год.<br>
Прыдзе свята, у цэркаў сходзіш,<br>
пасля ляжаш, аддыхнеш,<br>
У поле сходзіш, там пахodзіш,<br>
неяк проста аджывеш.**

Пішуць, нібы Пчолка мог быць аўтарам гэтага ананімнага твора. Але ж пад светапогляд Пчолкі такая натуральнасць беларуская пафасная абсалютна не падыходзіць.

***

Я не любіў -- цягніком. Ад Фаніпаля -- пехатой, кіламетраў дваццаць гасцінцам. Дарога праз самы плот маёнтка. Лебедзі яшчэ плавалі ў Пціччы. За Пціччу адразу ж -- паштовая станцыя.

А ці знаеце -- ніхто дагэтуль не зацікавіўся -- недалёка Прылукаў вёска Скарынічы, хіба ад Скарыны. Ад Скарынаў пайшлі дзеці, унукі, праўнукі... Так і вёска ўтваралася. А які лес быў! Гасцінцам ідучы, -- спярша Лошыца, за ёю, кіламетры праз два, Сенніца, убок троху -- Каралёў Стан. Назва чаму такая, ведаеце? Як ішло войска Жыгімонта на Маскву, тут, па-цяперашняму кажучы, стаўка каралеўская была...



**НА ЗДЫМКУ: Мікола УЛАШЧЫК. 1928 год.**

**(Працяг будзе).**

## *ХРОНІКА БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ*

### БЕЛАРУСКІ НУМАР "ЛІТУАНІІ"

У Варшаве выйшаў трэці нумар квартальніка "Літуанія", рэдактарам якога з'яўляецца прафесар Леан Брадоўскі. Большасць яго матэрыялаў прысвечана Беларусі. У часопісе змешчаны артыкулы "Беларусь -- сфера культурнага плюралізму" Бруна Дрвескага (Францыя), "Як адрадзіць сярэдні клас?" Алега Трусава, "Польскія культурна-асветныя ўстановы на Магілёўшчыне (1925--1927)" Ігара Пушкіна, "Каталіцкі касцёл на Беларусі ў ваенныя гады" Тацццяны Працька, "Шматкультурнасць Беларусі як фактар прывабнасці краіны для турыстаў" Адама Байцара і інш.

У нумары прадстаўлена таксама беларуская паэзія -- IV частка з паэмы Якуба Коласа "Новая зямля" і вершы Алега Бембеля ў перакладзе Чэслава Сэнюха.

**Лена КАЗЛОВА,
рэферэнт МАБ.**

### ВІЗІТ СУАЙЧЫННІЦЫ З ФРАНЦЫІ

У Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны пабывала госця з Францыі Вірджыні Шыманец, дзедам якой з'яўляецца вядомы беларускі мастак Уладзімір Шыманец. Яна займаецца гісторыяй беларускага тэатра, абараніла ў Інстытуце тэатральных даследаванняў Новай Сарбоны дысертацыю на тэму: "Тэатр і беларускае нацыянальнае адраджэнне (1880--1920)". Тэкст яе маладая даследчыца перадала ў бібліятэку цэнтра імя Ф. Скарыны.

З госцяй былі абмеркаваны пытанні сумеснага выдання бібліяграфіі па беларуска-французскіх грамадска-культурных сувязях, дзейнасці французскіх беларусістаў.

**Наталля МАРЦЫНКЕВІЧ,
супрацоўніца
цэнтра імя Ф. Скарыны.**

**Сяргей ПЯСЕЦКІ**

# ”КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ”




Спарадкаваўшы ўсе рэчы, зрабілі нараду.

-- Зброі ў нас мала, -- прамовіў Шчур. -- Дзьве машыны на трох. Але заўтра будзе болей!

-- Адкуль? -- запытаўся ў яго.

-- "Адкуль"? -- Шчур усьміхнуўся і вымавіў: -- Сам даведаешся. Заўтра ідзём на першую работу!

Грабар пацёр рукі.

-- Ну і пайшло! Першая катэгорыя!

-- Каго бяром? -- запытаўся я ў Шчура.

-- Алінчукоў! -- урачыста адказаў Шчур.

-- Ня можа гэтага быць! -- не паверыў яму.

-- Каб мяне так чэрці ўзялі!..

-- Дзе крыем?

-- Пад мостам, насупраць Вялікага Сяла. Пойдуць туды з таварам.

-- Адкуль ты ведаеш пра гэта?

-- Я ўсё ведаю. Там праходзяць кожны чацвёрты і пяты раз... І зараз павінны там ісьці. А пра тое, што яны выходзяць раніцай у дарогу, я даведаўся ад аднаго "блатняка".

-- Можа, ад Ёські Гусяра?

-- Ты яго ведаеш?

-- Ведаю.

-- Ад яго і пачуў.

-- Але ж усе Алінчукі ходзяць узброеныя, а ў нас толькі дзьве машыны на трох!

-- Таму і секанём іх найперш! Трэба здабыць зброю. Я ўжо ўсё абмазгаваў! -- вымавіў Шчур.

Мы пачалі абмяркоўваць падрабязнасьці заўтрашняга нашага налёту. Пасьля, разьвітаўшыся з намі, Шчур вярнуўся ў мястэчка, а я з Грабаром, лежачы на гарышчы, перад сном размаўлялі пра ўсё на сьвеце.

Вечар быў цёмны і ціхі, як тады, калі першы раз пайшоў зь Юзікам Трафідам за граніцу. Мы знаходзіліся на тым самым месцы, на якім я быў некалі, толькі зараз не сядзеў у канале разам з гуртам перамытнікаў, а на плячах не было ношкі.

Як я ўжо пісаў на пачатку гэтай аповесьці, дарога там ішла па высокім насыпе, дзе ў адным нізкім месцы быў доўгі, на некалькі метраў, адводны канал для вытоку вады падчас веснавой паводкі. Алінчукі павінны былі ўвайсьці ў канал і на нейкі час там схавацца, каб адпачыць. Так рабіла кожная група, машыніст якой вёў па гэтым шляху хлопцаў. Ведалі пра тое пэўна.

Калі ўвечары прыйшлі туды, перш за ўсё ўважліва агледзелі мясцовасьць. Ад Паморшчыны да нас цягнулася ўзараная вялікімі скібамі чорная ральля. З таго боку блізка ад канала схавацца было немагчыма. З другога боку насыпу (ад граніцы) вузкім клінам накіроўваўся ў поле, на ўсход да граніцы, луг. Тут таксама немагчыма было зручна схавацца, каб увесь час трымаць на воку ўваход канала. Тады вырашылі зрабіць наступнае: па краях насыпу мы выкапалі дзьве даўгаватыя канавы глыбінёй па 25 сантыметраў кожная. Я і Грабар залеглі ад Паморшчыны, а Шчур уладкаваўся ў канаве з боку граніцы. Пад намі знаходзіўся канал, а падняўшы галаву ўгару, мы маглі бачыць уваходы ў канал, што чарнелі на стромкіх берагах насыпу. Потым спраўдзілі, ці добра замаскаваліся. Сапраўды, ідучы ў напрамку да канала, нічога не маглі прыкмеціць на насыпе. Затым, залезшы ў канал, выкурылі па некалькі папярос і толькі тады занялі свае месцы. Як павінны дзейнічаць, мы дамовіліся раней.

Час цягнуўся марудна. Мне шмат разоў здавалася, што чую крокі людзей, якія набліжаюцца да нас з боку Паморшчыны, і нават -- што бачу цёмныя абрысы, якія хістаюцца ў змроку, але заўсёды пазьней упэўніваўся, што гэта падман... У правай руцэ я трымаў парабел, у левай аборку, другі канец якой знаходзіўся ў Шчура.

Калі б паказаліся людзі, я павінен быў тузануць адзін раз на сябе, а калі б тыя залезьлі ў канал -- моцна пацягнуць тры разы. Тады Шчур, скокнуўшы ўніз, уключыў бы ліхтарык і сьвяціў ім усярэдзіну, а Грабар павінен быў паўтарыць усё гэта, толькі з нашага боку. Далейшы працяг "аперацыі" абдумалі да дробязей, і кожны добра ведаў, што яму належыць рабіць... Я і Шчур павінны былі захоўваць маўчаньне і адгукацца толькі ў надзвычайным выпадку зьмененымі падробленымі галасамі, кароткімі воклічамі. Гэта асабліва датычылася Шчура, які знаходзіўся на легальным становішчы і мог без перашкод, жывучы ў мястэчку, здабываць усялякую патрэбную нам інфармацыю. На Шчуру была куртка з настаўленым каўняром і капялюш зь нізка насунутымі на вочы вялікімі палямі. Свой твар ён упрыгожыў магутнымі рыжымі вусамі і таму выглядаў вельмі пацешна, а гледзячы на яго, хацелася [illegible]сьмяяцца. Я ж меў накл[illegible] я чорныя вусікі.

Час ідзе. Ляжу ў схованцы каля Грабара і, павярнуўшыся тварам да Паморшчыны, думаю пра featureознае... Непадалёку адсюль, бліжэй да граніц[illegible]ходзіцца Капітанская М[illegible]а. Падымаю галаву і праз насып гляджу ў бок граніцы. Аднак нічога не магу заўважыць у змроку, які шчыльна ахутаў нас.

Дзесьці брэша сабака. Стараюся вызначыць: дзе. "Там хтосьці ідзе!" У Паморшчыне гараць агеньчыкі. Іх некалькі. Калі даўжэй узіраюся -- здаецца, яны перасоўваюцца. Прымушаю сябе не глядзець, паколькі цемра потым гусьцее і цяжка што-небудзь заўважыць на мясцовасьці.

Сплываюць хвіліны, квадры, гадзіны. Няма нікога. Пагладаю на фасфарычныя стрэлкі. Хутка адзінаццаць. Тады чую нейкі невыразны звон, нібыта стук па каменю абцасам. Зірнуў управа і пачаў прыслухоўвацца. Падалося, што чую тупат крокаў. Потым усё сьцішылася. Зноў хібіў... "А можа, сёньня яны ўвогуле ня пойдуць альбо вырушылі іншым шляхам?"

Раптоўна ўсё выразьней чую лёгкі шоргат крокаў.

"Ідуць, -- думаю радасна. -- Сапраўды ідуць!"

Тулавам прыціскаюся бліжэй да зямлі, галаву падымаю над насыпам і стараюся ахапіць зрокам мясцовасьць, якая знаходзіцца справа ад мяне і патанае ў сутоньнях. Аднак у такую змрочную ноч найлепшы мой паслугач -- слых, і цяпер я штораз выразьней адрозьніваю крокі людзей. Штурхаю Грабара ў бок локцем і руляй парабела паказваю ў цемру, адкуль чую крокі. Ён доўга прыслухоўваецца, а потым сьцвярджальна ківае галавой. Падрыхтоўвае ліхтарык і нож: з нажом у руцэ будзе абшукваць Алінчукоў.

Ужо вельмі выразна чую крокі. Тады цягну адзін раз за шнурок. Шчур зьлёгку адказвае мне... Ня сьпіць...

А крокі ўсё бліжэй. Ведаю: гэта не зялёнкі -- да граніцы адсюль значны кавалак адлегласьці, і трымаюцца яны гуртам, а зводдаль ад граніцы не паводзілі б сябе так ціха. Гэта ці Алінчукі, ці іншыя перамытнікі.

Нечакана ў 10 кроках ад мяне выразна бачу постаць, якая ўзнікае зь цемры. За ёй сунуцца наступныя. Каб перамытнікі не заўважылі мой твар, нахіляю ўніз галаву.

Іх пяцёра. Падыходзяць да насыпу. Спыніліся паблізу канала. Доўга стаяць нерухома, потым адзін з тых хутка ўзьбег на насып і перайшоў яго на другі бок. Я не чакаў гэтага. "Што такое? Можа, увогуле ня пойдуць у канал!" Пазіраю то на астатніх чатырох чалавек, то на ўваход у канал. Вакол цішыня. "Можа, хочуць разьведаць другі бок насыпу і канал?" -- думаю і не памыляюся. Праз пэўны час заўважаю, як у некалькіх кроках ад мяне з канала паказалася істота з шэрым прастакутнікам ношкі на сьпіне. Чую ціхае: "Цыц! Цыц!" -- і чатыры цёмныя постаці накіроўваюцца паўз насып да ўвахода. Адразу ўсе. Сэрца хутка з радасьцю б'ецца, скача ў грудзях: усё атрымалася выдатна -- як мы прадбачылі!

Нізка нахіляючыся, Алінчукі адзін за другім залазяць у канал. Тады я моцна тузаю тры разы аборкай, і Шчур ускоквае на ногі. Зрабіўшы некалькі скокаў, зьнікае за насыпам. З нашага боку Грабар скокнуў уніз, а я зьбег за ім.

Амаль адначасова каля двух выйсьцяў бліснулі электрычныя ліхтарыкі. Залілі сьцены яркімі праменьнямі. У той жа момант прагучаў спакойны, халодны, упэўнены ў сабе голас Грабара:

-- Ручкі ўгору!.. Раз, два!.. І ані мур-мур! Першая катэгорыя!

"Ого! -- чамусьці падумаў я. -- Дык вось ты які!"

Грабар засьвяціў свой ліхтарык і з бліскучым нажом у правай руцэ пайшоў, нахіліўшыся ўперад. Шырока расхінуўшы курткі, каб закрыць выйсьце з канала, я са Шчурам усьцяж сьвяцілі ўсярэдзіну. Рабілі так, каб не было здалёк відаць бляску ліхтарыкаў.

Грабар абшуквае першага з краю. Пазнаю Альбіна. Зь яго кішэні Грабар выняў рэвальвер, запасныя магазіны і нешта яшчэ, што здалёк я ня мог заўважыць. Усё гэта ён хавае ў свае кішэні. Потым аглядае наступнага -- Адольфа. Таксама ўсяго абмацвае, выварочвае кішэні і забірае зброю. Наступны быў Альфонс. За ім Амброжык. І, нарэшце, Альфрэд. Перамытнік нешта сказаў Грабару. Я не пачуў, што. У адказ прагучаў голас Грабара:

-- Якім правам?.. А гэткім, што мне так падабаецца! Разумееш?.. А як захочацца -- выб'ю табе зубы альбо во -- "касу" ў бок заганю! "Понял"?

Грабар скончыў абшукваць Алінчукоў. Пасьля загадаў ім:

-- Скідайце ношкі! Хутка, бо я падганю!

Зараз ужо Грабар трымаў у левай руцэ ліхтарык, а ў правай зараджаны парабел, які забраў у Альфрэда. Браты скінулі зь плячэй ношкі. Тады Грабар голасна загадаў:

-- А зараз марш за граніцу! Гуськом... Адзін за другім... Я буду ззаду... хто азірнецца, атрымае пілюлю для ачышчэньня сумленьня... Вылазь!.. Пайшлі!.. Першая катэгорыя!

Шчур, пагасіўшы ліхтарык, адсланіў ім выйсьце. Алінчукі вылезьлі па адным і накіраваліся ў поле. Грабар пакрочыў за імі. Шчур забраўся ў канал і пачаў выкідваць адтуль ношкі. Яны былі дастаткова цяжкія. Я пачаў іх зьвязваць па дзьве зараз. Дзьве Грабару, дзьве мне, а Шчуру, які быў слабейшы за нас, пакінуў адну ношку.

-- Мурова ён іх апрацаваў! -- шэптам сказаў я Шчуру.

-- Гэта старая фірма! Жыган! Ведаю, каго да такой работы браць!.. Такіх, як ён, на пагранічччы мала!

Хутка пачуліся лёгкія крокі, і з насыпу зьбег Грабар.

-- Дзе ты іх пакінуў? -- запытаўся Шчур.

-- Паўкіламетра іх вёў. Можа, да самай граніцы... Я тут мясьцін ня ведаю... А пасьля пацiху ўзад, [illegible]... Як я петру, да самай М[illegible]ы памаршыруюць: думаюць, што крочу сьледам...

Мы вярнуліся на мяліну. На падстрэшшы пры сьвеце ліхтарыка Граб[illegible] пачаў выкладваць адабран[illegible] Алінчукоў рэчы. Там был[illegible] рэвальвераў: тры парабелы і два наганы, 5 ліхтарыкаў, шмат набояў і запасных абоймаў. Акрамя гэтага -- некалькі партманетаў. Шчур пачаў іх правяраць. Там было шмат польскіх і савецкіх грошай, былі даляры і стэрлінгі. Ніякіх дакументаў не было. Асабістых пасьведчаньняў перамытнікі ў дарогу не бяруць.

-- Ведаеш што? -- прамовіў Шчур. -- Палову грошай аддадзім матцы Кручка, а палову адашлем Лорду ў астрог. Яны праз іх пацярпелі. Хай хоць гэта скарыстаюць!

-- З паршывай авечкі -- абы клок воўны! -- вымавіў Грабар.

-- А нам застаецца тавар і зброя.

Мы пачалі распакоўваць ношкі. Тавар быў дарагі: лакеркі, шаўро, перламутравыя французскія гузікі, батыст, шаўковыя панчохі -- усё самага лепшага гатунку.

-- Ну і ну! Добры куш сарвалі! -- прамовіў Шчур.

-- Дзе ты гэта апыліш? -- запытаўся ў яго Грабар.

-- Халера яго ведае! Ёсьць дзе прадаць, але трэба шмат страціць!

Тады мне ў галаву прыйшла адна думка.

-- Ведаеш што? -- сказаў Шчуру. -- А можа, паспрабуем занесьці тавар да Бамбіны? Яна даўно ўжо на волі, а свае справы завязала.

-- Добрая парада! -- адгукнуўся Шчур. -- Тут трэба аддаваць за палову кошту. А там мы яшчэ 100 працэнтаў заробім. Возьмем у восем, дзесяць разоў больш, чым тут... Ну і таго! -- мірганў мне вокам, -- убачыш сваю Бамбусю. Добра, што ты яе прыгадаў!

Вырашылі, скарыстаўшы цёмныя ночы, назаўтра аднесьці за граніцу адабраны ў Алінчукоў тавар. Шчур пайшоў у мястэчка, а я і Грабар засталіся на мяліне.

## 7

Аднойчы я прабавіў шмат часу ў лесе каля Душкава. У мяне зьявіўся намер абысьці вёску Выганічы і вярнуцца на пункт. У гэты момант, стоячы на ўзьлеску, заўважыў пару, якая рухалася па дарозе -- маладога хлопца і дзяўчыну. Постаць юнака мне некага нагадвала. Я адышоў у лес і схаваўся ў хмызах.

Сярод тых, што набліжаліся, пазнаў Петруся Філосафа, які трымаў пад руку невядомую мне паненку. Ніколі ня бачыў яе ў мястэчку. Была сьціпла апранутая. З чорнымі валасамі, брывамі і сьветлым воблікам. Была надта маладая, нават маладзейшая за Петруся. Мне падалося, што недзе бачыў гэты твар. Спачатку хацеў падысці да іх, але калі заўважыў у дзяўчыны падабенства да некага, каго я ведаў раней,.. спыніўся. Абмінулі мяне. Ціха размаўляючы, пайшлі далей. А я глядзеў усьлед і ўсё думаў, думаў... Нарэшце прыпомніў Капітанскую Магілу і здань... гэты самы воблік... або вельмі блізкі... Бачыў яго ў гарачцы, паўставаў са змроку, аднак застаўся ў памяці.

Сачу за імі зводдаль. Няма рашучасьці падысьці. Штосьці мяне ўтрымлівае.

Наблізіліся да Душкаўскага маёнтка і павярнулі назад. Крочу за імі. Пасьля забягаю лесам наперад і залажу ў прыдарожныя кусты. Падыходзяць да схованкі. Чую дзявочы голас:

-- Няхай пан напіша ў Варшаву. Магчыма, там знойдуцца якія-небудзь зьвесткі?

-- Не, панна Іра!.. Усе гэта намарна. Думаю зараз пры дапамозе газет зьвярнуцца да эмігрантаў... Маглі выехаць у Германію альбо Францыю. Павінны мець знаёмых, што ведаюць пра іх лёс...

Працягу размовы не разабраў. З самога ўрыўка зразумеў, што Пятрусь імкнецца адшукаць сваіх блізкіх і размаўляў пра гэта зь дзяўчынай, імя якой -- Ірына. Але хто яна? Адчуваў, што гэтую загадку без дапамогі Петруся мне не разгадаць...

Адыходзілі ўсё далей ад мяне і зьніклі за нейкім пагоркам. А я доўга ўзіраўся ўсьлед.

Крочу па палях у напрамку лесу, дзе знаходзіцца наш пункт. У памяшканьні Гэля рыхтуе нам вячэру. Маглі б есьці ў пакоі, але на гарышчы адчуваем незалежней -- няма ўмоўнасьцей. З гэтае нагоды кладу яду ў кош, выходжу з хаты і залажу на гару. Убачыўшы мяне, Грабар зірнуў прыплюшчанымі вачамі і прытварыўся, што сьпіць.

-- Чалавек, калі ты высьпішся! -- кажу я, зьдзіўлены.

-- Ну, бо што?.. Што трэба рабіць?.. Ноччу да баб на біржу, а днём дрыхну.

-- Падымайся есьці!

Са смакам ядзім засмажаную са скрылечкамі ад бачка яечню, гарачыя бліны, тушанае мяса, капусту. Выпіваем пляшку гарэлкі. Пасьля закурваем папяросы. Да заходу сонца яшчэ далёка.

-- Быў Шчур, -- вымавіў Грабар.

-- Ну?..

-- Прынёс 10 пляшак "гамэры" і 2 000 папярос.

-- Што казаў?

-- Паўстанцы сядзяць ціха. У дарогу не рыпаюцца. А Алінчукі данесьлі на цябе ў паліцыю, што абрабаваў іх на дарозе з Ракава да Аляхновіч.

-- Супакойся! Ня можа быць!

-- Шчур казаў. Таксама лаяўся. Першая катэгорыя!

-- Але ж не маглі мяне пазнаць. Не адгукнуўся ж да іх ні адным словам, ня бачылі мяне ўвогуле!

-- Шчур казаў, што гэта яны з понтам, налева. Яны самі не ведаюць, хто іх абрабаваў, а на цябе данесьлі са злосьці. Гэта Альфрэдава работа... А што, хвалюе гэта цябе? І так ніхто ня дасьць веры, што ў іх адабралі тавар па дарозе на станцыю.

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 29—5.**

# СЛУХАЮЧЫ ЖЫЦЦЁ І ЛІТАРАТУРУ

НАБЫТКІ Рыгора Барадуліна ў галіне крытыкі, публіцыстыкі, літаратуразнаўства, магчыма, у параўнанні з яго паэтычным умалотам у нечым меншыя, тым не менш у гэтай галіне слыннаму майстру таксама працуецца надзіва плённа. Што гэта і на самай справе так, прыхільнікі таленту Р.Барадуліна змаглі пераканацца яшчэ ў 1987 годзе, калі выйшла яго кніга літаратурна-крытычных артыкулаў і эсэ "Парастак радка, галінка верша". Часта выступае Рыгор Барадулін і ў перыядычным друку. Ці то з юбілейным словам пра калег па пяру, ці то з успамінамі, альбо з рэцэнзіяй на кнігу.

А цяпер ён паўстаў перад чытачом як аўтар зборніка "Аратай, які пасвіць аблокі". Жанр сваёй новай кнігі Р.Барадулін вызначыў так: "Сяброўскае слова, эсэ і некананізаваныя ўспаміны", а ўсе матэрыялы аб'яднаны ў два раздзелы, якім папярэднічаюць вершаваныя ўступы.

Першы -- "Сяброўскае слова" -- бадай, бліжэй да крытыкі, але з літаратуразнаўчымі аспектамі. І гэта добра відаць з артыкула "Не разбіць, не спыніць, не стрымаць...", у якім Р.Барадулін дае сваё разуменне паэзіі М.Багдановіча. Максім-Кніжнік, упэўнены ён, "Богам дадзены нашай паэзіі, народу беларускаму, дадзены навырост. Аднаго жыцця мала, каб дарасці да разумення Максіма Багдановіча, да разумення ягонай унікальнасці, ягонай велічы, ягонай глыбіннай прастаты".

Адметныя, непаўторныя словы знаходзіць аўтар і пра У.Дубоўку ("О, Беларусь, мая шыпшына..."). А поруч эсэ "Унучка Францішка Скарыны, альбо Зэк N 0-287", у якім паўстае шматгранны воблік Ларысы Геніюш -- паэтэсы, чалавека, грамадзяніна. Гэтым разам Р.Барадулін адштурхоўваецца і ад асабістых успамінаў, калі яму пашчасціла сустракацца з Л.Геніюш, уважліва перачытвае, прачытвае яе паэзію, разглядае няпросты жыццёвы шлях.

І іншыя матэрыялы згаданага раздзела вызначаюцца змястоўнасцю, уменнем аўтара знайсці ў жыцці і творчасці кожнага, пра каго ён гаворыць, тое найбольш істотнае і важнае, што дазваляе засведчыць: перад табой Асоба. Прынамсі, гэткім уважлівым і патрабавальным падыходам вызначаюцца развагі пра І.Харыка ("І кожны ў мур цаглінай лёг жывой..."), М.Аўрамчыка ("Замілаванасць"), У.Лісіцына ("На радзіме -- усё паэзія..."), К.Цвірку ("Каб араллёю пахлі аблокі..."), Ю.Свірку ("Першы склад перад націскам"), Я.Янішчыц ("Так заплачу, нібы запяю..."), К.Камейшу ("Верасовая кніга") і іншых. Кожным разам Р.Барадулін імкнецца знайсці тое найбольш важнае, з чаго і пачынаецца сапраўдны творца.

А вось П.Панчанку і В.Быкаву Рыгор Іванавіч прысвяціў па тры артыкулы. Атрымаліся свайго роду трыпціхі. Дарэчы, артыкулы пра В.Быкава "Апостал нацыі", "Космас Васіля Быкава" і "Як васілёк у жыце Беларушчыны" і аб'яднаны агульнай назвай "Трыпціх". У гэтых развагах (як пра П.Панчанку, так і пра В.Быкава), зразумела, нямала свайго, асабістага, але тым не менш гэта ў нечым і наша агульнае ўспрыманне творчасці слынных майстроў слова. Р.Барадуліну ўдаецца быць надзвычай патрабавальным нават тады, калі ён прамаўляе слова пра тых, з кім сябруе, каго добра ведае.

Другі раздзел "Эсэ і некананізаваныя ўспаміны", у параўнанні з першым, я б сказаў, куды больш раскаваны. Ды і як жа інакш! Гэта ж не проста згадкі пра тых, хто адышоў, а ўспаміны некананізаваныя. Значыць, можна, не баючыся, што хто-небудзь цябе няправільна зразумее, расказаць і тое, што паслабляе хрэстаматыйнае ўяўленне пра пэўнага творцу, але разам з тым дазваляе яго лепш зразумець як звычайнага чалавека, якому і на самай справе нішто людское не чужое.

Менавіта так успрымаюцца згадкі пра П.Броўку "Зямляк". З Петрусём Усцінавічам Р.Барадулін сябраваў, праўда, ніколі не імкнуўся быць запанібрата. Аднак надараліся самыя розныя сітуацыі. Пра іх і вядзецца гаворка ва ўспамінах. А яны дасціпныя, займальныя і разам з тым багатыя, як кажуць, на фактычны матэрыял. Скажам, можна даведацца, чаму Рыгор Іванавіч так і не ўступіў у партыю. Аказваецца, зрабіць гэта яму ў свой час прапанаваў сам П.Броўка. Ды, мабыць, забыўся. А паколькі Р.Барадулін не вельмі рваўся да "розуму, гонару і сумлення нацыі", дык і карыстаўся гэтай забыўлівасцю свайго знакамітага земляка: "Пасля, калі настойліва прапаноўвалі мне ўступіць у партыю парторгі Грамовіч, Кулакоўскі, у мяне быў дужа цвярозы козыр: рэкамендацыю мне даваў сам Пятрусь Усцінавіч, калі пілі, а цвярозы ні разу пра гэта не заікнуўся".

А колькі дасціпу ва ўспамінах пра П.Пестрака "Укоптур"! Р.Барадулін, расказваючы пра знакамітага беларускага падпольшчыка на тэрыторыі Заходняй Беларусі, які ў белапольскіх засценках правёў 15 гадоў, захапляецца яго чалавечнасцю, таварыскасцю і знаходзіць, бадай, тое, што ў П.П[illegible]траку здатны былі ўбачыць [illegible]а не многія: "Аўтар эпапеі, раманаў, аповесцяў, апавяданняў перадусім быў Паэтам. Любіў жыццё, слухаў жыццё, слухаўся жыцця. І жыццё любіла яго. І надавала любімцу свайм[illegible] салодкага, і горкага, і вяс[illegible], і сумнага ўкоптур. Каб піу нагбом!"

Ні ў якім разе нельга прайсці міма ўспамінаў пра У.Караткевіча ("І коскі з месца не зрушу!..") і М.Стральцова ("Конь гуляў па волі..."). Адчуваецца, наколькі блізкімі гэтыя творцы былі Рыгору Іванавічу, як даражыў ён (і па сённяшні дзень даражыць!) іх сяброўствам. Урэшце, нямала згадак, успамінаў і ў разгорнутай аўтабіяграфіі "На таку майго веку", што месцамі нагадвае дакументальна-мастацкую аповесць. Зноў жа, гэта аўтабіяграфія "некананізаваная", вельмі адрозніваецца ад тых жыццяпісаў, што калісь прапаноўваліся пісьменнікамі да зборнікаў аўтабіяграфій.

На завяршэнне ж кнігі Р.Барадулін прапануе самыя што ні ёсць россыпы народнага гумару, народнага дасціпу. Адзін з раздзельчыкаў называецца "Здубавецця". Вось якое тлумачэнне дае аўтар гэтаму слову: "Ушацкія называюць усё абы-як сабранае, выдуманае і нявыдуманае, нішто і нешта, прастакаватае і хітраватае, вясёлае і сумнаватае адным словам -- здубавецця... А яшчэ сустракаюцца на Ушаччыне і "прыбабунькі": "Гэтае ўшацкае слова, у якім гучыць і байка, і бабуля, і булькат каменьчыка, кінутага ў крутавір усмешкі і прасмешкі, аб'ядноўвае такія навуковыя паняцці, як прыказкі, прымаўкі, каламбуры альбо дасціпы. Яны са мною змалку хадзілі, бо прыбабунькі ў мамы маёй былі на кожным кроку, на першым прыскоку. Я ўзяў іх ад мамы, з матчынай хаты яны пайшлі са мной, каб грэць, бадзёрыць, вадзіць мяне ў халоднай дарозе жыцця".

Па-сапраўднаму слухаючы жыццё, слухаючы літаратуру, напісаў Р.Барадулін сваю новую кнігу. Не паэтычную, ды паэзіяй напоўненую. Праз воблік тых, каго ён згадвае, праз аўтарскую ўлюбёнасць у паэзію, якая даўно стала для яго прызваннем.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**



# У ВІЦЕБСКУ, У ЗАДЗВІННІ

Так на рагу Нікольскай і Піярскай (якая з сярэдзіны XIX стагоддзя стала называцца Ніжне-Пятроўскай) вуліц у Віцебску з'явілася кірха, у якую з цягам часу сталі прыходзіць не толькі немцы, але таксама латышы, швейцарцы ды прадстаўнікі іншых дыяспар, што воляй лёсу апынуліся ў горадзе. Аляксандр Семянтоўскі ў "Статыстычным нарысе г. Віцебска", які быў надрукаваны на старонках "Памятнай кніжкі Віцебскай губерні на 1865 год", пісаў наступнае: "Лютэране маюць у трэцяй, гэта значыць Задзвінскай, частцы горада сваю кірху, перабудаваную з былога піярскага касцёла. Будынак яе мураваны, уваход з Піярскай вуліцы. Пры кірсе ёсць значнай прасторы агарод, які здаецца ў арэнду. Пастар жыве ў Полацку, і таму набажэнства ў кірсе адбываецца вельмі рэдка".

У другой палове 1880-х гадоў лютэранская абшчына Віцебска звярнулася з хадайніцтвам да гарадскіх уладаў аб выдзяленні ёй асобнага кавалка зямлі пад могілкі. Хадайніцтва гэтае было задаволена, і пад лютэранскія могілкі быў адведзены пляц гарадской зямлі з дачы "Юр'ева слабада". Побач з лютэранскімі размяшчаліся Сямёнаўскія і Вайсковыя могілкі, а з цягам часу ўсе тры некропалі зліліся ў адзін.

Сёння Старасямёнаўскія могілкі на Юр'евай горцы -- практычна адзіны старадаўні гарадскі некропаль, усе астатнія былі па-варварску знішчаны за гады савецкай улады. Зараз тут яшчэ можна пабачыць старыя мармуровыя помнікі і літыя чыгунныя крыжы з жалобнымі надпісамі, зробленымі па-нямецку. Сярод тых, хто быў пахаваны на лютэранскіх могілках у Віцебску, варта адзначыць стацкага саветніка Мікалая фон Тэшэ, члена Віцебскага акруговага суда; надворнага саветніка Роберта Кюльпе, кіраўніка аптэкі Віцебскай губернскай бальніцы; Дарту Пліекшан, маці выдатнага латышскага паэта Яна Райніса... Колькасць пратэстанцкага насельніцтва Віцебска ніколі не перавышала двух працэнтаў, аднак сярод прыхаджан лютэранскай кірхі сустракаліся людзі адметнай адукацыі і культуры. Варта згадаць толькі Паўла Шэйна, вядомага беларускага фальклярыста і этнографа; інжынера Аляксандра Фетынга, будаўніка ўжо згаданага вышэй пастаяннага моста праз Заходнюю Дзвіну; барона Мікалая Аша, павятовага маршалка; правізара Карла Рэйдэмейстэра, уладальніка адной з самых вядомых у горадзе аптэк.

Сёння старыя лютэранскія могілкі патрабуюць тэрміновай увагі і дагляду. Штогод з іх бясследна знікаюць мармуровыя помнікі, на месцы старых нечакана ўзнікаюць новыя пахаванні. Напэўна, усім нам ужо наспеў час усвядоміць, што старыя некропалі таксама з'яўляюцца помнікамі гісторыі і культуры грамадства. І менавіта ў адносінах да іх найбольш яскрава вызначаецца ўзровень культуры гэтага грамадства.

Будынак віцебскай кірхі быў часткова пашкоджаны ў час другой сусветнай вайны. Аднаўляць яго гарадскія ўлады не сталі, палічыўшы за лепшае зусім сцерці з твару горада. Зараз на яго месцы ўзвышаецца вялізны індустрыяльны корпус вучэбна-вытворчага камбіната Беларускага таварыства інвалідаў. Пра ксяндзоў-піяраў ды лютэранскіх пастараў тут зараз, на жаль, не згадвае ніхто.

**Заканчэнне. Пачатак у № 5.**

## [illegible]ТАЛЬЁННАЯ ЦАРКВА

"У Віцебску, каля Полацкай зас[illegible]вы, існуюць мураваныя ка[illegible]. Гэта былы палац графа С[illegible]іха, віцебскага каменданта, прызначанага на пасаду хутка пасля далучэння Беларусі да Расіі", -- пісаў у 1887 годзе віцебскі краязнаўца Аляксей Сапуноў, адказваючы на пытанні анкеты Імператарскай Акадэміі мастацтваў пра помнікі старажытнасці ў Віцебскай губерні. Як выглядаў палац Мініха, мы сёння не ведаем, аднак сёе-тое пра дзейнасць віцебскага каменданта сказаць можна.

Як вядома, на момант далучэння Віцебска да Расійскай імперыі ў горадзе не было ніводнай праваслаўнай царквы. Таму на працягу цэлых сямі наступных гадоў усяму вышэйшаму гарадскому начальству і праваслаўным салдатам гарнізона даводзілася наведваць уніяцкія бажніцы або не хадзіць у храм увогуле. Такі стан рэчаў патрабаваў тэрміновага выпраўлення, і палкоўнік Мініх накіраваў пісьмовую просьбу да царкоўных уладаў, у якой даводзіў неабходнасць будаўніцтва ў горадзе хоць адной праваслаўнай царквы. З траўня 1779 года Правячы Сінод на сваім пасяджэнні слухаў даклад Пскоўскага архіепіскапа Інакенція, які цалкам падтрымаў прапанову "нованабытых польскіх правінцый, што знаходзяцца ў Пскоўскай епархіі, горада Віцебска каменданта палкоўніка графа Мініха". Пастановай Сінода было вырашана пабудаваць у горадзе для салдат гарнізона праваслаўную царкву ў гонар Св. Мікалая Цудатворцы.

Узвялі новую драўляную царкву на старым царкавішчы, насупраць піярскага касцёла пры дарозе на Полацк. Варта адзначыць, што на працягу XVII-XVIII стагоддзяў у драўляным культавым дойлідстве горада склалася пэўная традыцыя, якая ў сучасным беларускім мастацтвазнаўстве атрымала найменне віцебскай школы дойлідства. Мікалаеўская царква была, бадай што, апошнім па часе ўзвядзення помнікам гэтай школы, у якім побач з традыцыйнымі рысамі ўжо прысутнічалі асобныя адзнакі архітэктуры класіцызму.

Пабудаваная для салдат гарнізона, Віцебская Мікалаеўская царква належала да вайсковага ведамства і сярод жыхароў горада хутка атрымала найменне батальённай. К сярэдзіне XIX стагоддзя яна прыйшла ў заняпад, і ў 1853 годзе вайскоўцы вырашылі адмовіцца ад яе і перадаць у карыстанне епархіяльным уладам. У тым жа годзе па хадайніцтву прыхаджан і дзякуючы падтрымцы віцебскага генерал-губернатара князя Галіцкага пачаўся рамонт храма, на які нават ваеннае ведамства выдаткавала 1 000 рублёў. Аднаўлялі царкву на працягу некалькіх гадоў, і толькі 25 лютага 1859 года яна была асвячона архіепіскапам Полацкім і Віцебскім Васілём.

У 1863 годзе Мікалаеўская царква зноў была вернута вайскоўцам. Аляксандр Семянтоўскі, які на пачатку 1860-х гадоў апісваў усе старажытнасці віцебскіх храмаў, пра Мікалаеўскую царкву занатаваў наступнае: "Ні ў ліку царкоўнага начыння, ні ў ліку абразоў, выбітных па старажытнасці, каштоўнасці або асабліва вытанчанай апрацоўцы, няма". Ды і адкуль было ўзяцца каштоўнаму начынню, калі, паводле запісаў кліравых ведамасцяў за 1862 год, сярод 2 076 душ Св.-Мікалаеўскай парафіі 1 634 чалавекі складалі салдаты, увесь скарб якіх умяшчаўся ў звычайнай вайсковай кайстры!..

Час знішчэння Віцебскай Мікалаеўскай батальённай царквы таксама прыпадае на гады існавання савецкага грамадства.

***

Вось і ўсё, што мне ўдалося адшукаць у архіўных ды кніжных сховішчах пра гісторыю аднаго з кавалачкаў гарадской прасторы старажытнага Віцебска. Больш грунтоўнага гістарычнага, археалагічнага ды архітэктурнага даследавання яшчэ вымагаюць будынкі колішняй шэраговай гарадской забудовы, якія ўтвараюць квартал, абмежаваны вуліцамі з такімі несугладнымі даўніне палітызаванымі назвамі. Адно добра, што сёння ў асобе спадарыні Туманавай яны маюць руплівага гаспадара, які цікавіцца іх мінулым. А значыць, яны маюць і будучыню. Ёсць на тое спадзяванне.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

# СВЯТА БЛІЗКІХ ПА ДУХУ ЛЮДЗЕЙ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

За выкананне праекта ўзяліся Ю.Хадыка, А.Ярашэвіч, М.Мельнікаў, А.Хадыка. На працягу года было адноўлена 50 твораў мастацтва (40 з іх дэманструюцца на выставе), падрыхтаваны да выдання каталог адрэстаўраваных твораў; напісаны 7 копій з абразоў XVII–XVIII стагоддзяў (яны неабходны для абмену і вяртання раней узятых абразоў у храмы, якія апошнім часам зноў адкрываюцца для вернікаў).

На гэтыя ж сродкі музей набыў абсталяванне для фоталабараторыі і неабходную навукоўцам сучасную аргтэхніку. Дапамога фонду Сораса дазволіла Музею старажытнабеларускай культуры даць інфармацыю пра свае скарбы ўсяму свету. Нават дзяржаўныя музеі Беларусі пакуль не маюць такой магчымасці. На гэтыя ж грошы дырэктар музея Віктар Шматаў улетку 1995 года змог павезці ў Францыю (г.Гаяк) выставу часткі рэстаўраваных абразоў і скульптур. Упершыню ў гісторыі музейнай справы Беларусі нашы старажытныя абразы і скульптуры дэманстраваліся ў Францыі. Наведвальнікі гэтай выставы мелі магчымасць азнаёміцца з яе каталогам, фотаздымкамі экспазіцыі музея, набыць буклеты. Французская прэса прысвяціла беларускай выставе шмат публікацый.



Але вернемся да самой выставы... У сярэдзіне студзеня наведвальнікі ўбачылі ўратаваныя беларускімі навукоўцамі і рэстаўратарамі 40 старажытнабеларускіх абразоў. Адкрыццё гэтай выставы сталася сапраўдным святам для ўсіх, хто ўдзельнічае ў працэсе адраджэння беларускай культуры і хто шчыра спагадае і прыхільны яму. Адкрыў выставу дырэктар музея доктар мастацтвазнаўства Віктар Шматаў, які падкрэсліў, што выстава адкрыта на грамадскіх пачатках. Справа ў тым, што супрацоўнікі музея з'яўляюцца навукоўцамі і лабарантамі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук. Іх галоўная справа -- у тэрмін і якасна напісаць пэўны аб'ём навуковых прац. Усю музейную справу супрацоўнікі выконваюць на грамадскіх пачатках і добраахвотна. Адначасова ён падкрэсліў, што добрая якасць рэстаўрацыйнай працы была пацверджана навукоўцамі французскіх музеяў у час вышэйзгаданай выставы.

Доктар фізіка-матэматычных навук Юры Хадыка, які з 1969 года разам з навукоўцамі ездзіў у экспедыцыі ў час сваіх адпачынкаў як добраахвотны памагаты (на працягу першых пяці год ён сфарміраваўся ў сапраўднага прафесіянальнага мастацтвазнаўцу. -- **М.Я.**), адзначыў самабытныя рысы беларускіх абразоў XVII–XVIII стагоддзяў, творчую свабоду кожнага мастака ў інтэрпрэтацыі рэлігійных сюжэтаў -- гэта значыць пісалі яны не па кананічных установках іерархаў царквы, а збліжалі "высокае" і "нізкае" мастацтва, часам адлюстроўвалі ў абразах нібы звычайных людзей з беларускімі этнічнымі прыкметамі ў адзенні, мэблі, посудзе, тыпажах; сувязь з заходнееўрапейскай культурнай традыцыяй эпохі барока і класіцызму. Ужо на гэтай выставе гледачы ўбачылі добры мастацкі ўзровень сямі копій з абразоў XVII--XVIII стагоддзяў, напісаных сучаснымі мастакамі.

Зянон Пазьняк, які выступіў на прэзентацыі, адзначыў, што і раней сродкаў на рэстаўрацыю было мала, сёння іх дзяржава не дае зусім. Адносіны ўсіх беларускіх урадаў да нацыянальнай культуры не змяніліся. Але змяніліся людзі, з'явілася ўласная нацыянальная эліта. Калі народ мае такую багатую культурную спадчыну, як у гэтым музеі, то ён непераможны менавіта сваім мастацтвам.

На адкрыцці выставы прысутнічалі акадэмік, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі, рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў народны мастак Рэспублікі Беларусь Васіль Шаранговіч і іншыя вядомыя дзеячы беларускай культуры. Пасля прамоў прысутныя праслухалі мілагучныя старажытныя спевы Народнай харавой капэлы Акадэміі навук пад кіраўніцтвам Валерыя Аўраменкі. Увогуле адкрыццё выставы сталася сапраўдным святам блізкіх па духу людзей, аб'яднаных замілаванымі адносінамі да сваёй Бацькаўшчыны, да сваёй нацыянальнай спадчыны.

У час агляду выставы я звярнула ўвагу на разнастайную каларыстычную гаму абразоў XVII--XVIII стагоддзяў. Большасць з іх, асабліва тыя, што напісаны пад уплывам так званага "нізкага барока" (з выразнымі этнічнымі прыкметамі), напісаны ў мажорных чырвона-сіне-залацістых колерах, але шмат абразоў маюць сцішаныя вохрыста-зялёна-серабрыстыя колеры ці вохрыста-блакітна-залацістыя.

Уласна мяне прыемна ўразіў прыгожы і рэдкі сярод беларускіх абразоў ізумрудна-зялёна-залацісты каларыт у абразе "Маці Божая Карміліцкая (Рымская)" сярэдзіны XVIII стагоддзя, які паходзіць з Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці (рэстаўратар Аляксей Пуцінцаў), а таксама манахромна-вохрысты каларыт і па-сялянску філасофская трактоўка задуменных лікаў апосталаў, пададзеных мастаком нібы ў час разважлівай размовы між імі. Выявы апосталаў прадстаўлены тут на некалькіх фрагментах сапраўднага апостальскага раду іканастаса XVIII стагоддзя, які паходзіць з Драгічынскага раёна.

Сярод алейнага жывапісу выдатным майстэрствам пісьма вылучаюцца абразы "Іосіф з дзіцем Ісусам" першай паловы XVIII стагоддзя з Драгічынскага раёна, "Св. Юры" (1750 год) са Слонімскага раёна. Асаблівую ўвагу навукоўцаў прыцягваюць датаваныя і па[illegible]аныя творы -- "Св. Юры" (1750 год) з аўтографам мастака Нікадзіма Прачыцкага, абразы "Тройца новазапаветная" (1790 год), "Палажэнне ў труну" (1794 год), "Ісус Хрыстос" (1736 год). Апошні твор вельмі дапасуецца да выставы, бо на ім ёсць манагр[illegible] яго рэстаўратара ад XVIII стагоддзя, які над ёй п[illegible]ваў.

Гэта першая выстава рэстаўраваных абразоў прафесіянальнымі рэстаўратарамі менавіта беларускай школы рэстаўрацыі паставіла шмат праблем перад кіраўніцтвам інстытута, Акадэміі навук і Міністэрствам культуры, а галоўным чынам, перад урадам Рэспублікі Беларусь. Але пра гэта асобная гаворка.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Маці Божая "Адзігітрыя". XVI стагоддзе; апосталы Лука і Іаан. XVIII стагоддзе.**

**Фота Мікалая МЕЛЬНІКАВА.**



# БЛІЖЭЙ ДА ІСПАНІІ



Boletín informativo de la Asociación "Belarús - España"
Інфармацыйны бюлетэнь Таварыства "Беларусь-Іспанія"

"LA ESPADAÑA" № 1'95

A NUESTROS LECTORES EN ESPAÑA Y OTROS PAISES

Беларусь–Іспанія: Ёсць пачатак эканамічнага супрацоўніцтва

Да нашага беларускага чытача

Напрыканцы мінулага года пабачыў свет першы нумар "La Espadana" -- друкаванага органа таварыства "Беларусь–Іспанія". Газета друкуецца на беларускай і іспанскай мовах. Уласна, таварыства "Беларусь–Іспанія" (ТБІ) было ўтворана ў лютым 1992 года з мэтай аб'яднаць людзей, зацікаўленых у развіцці ўсебаковых сувязей паміж Рэспублікай Беларусь і Іспаніяй. У склад грамадскай арганізацыі ўваходзяць навукоўцы, дзеячы культуры і мастацтва, выкладчыкі і студэнты, бізнесмены, перакладчыкі, вучні -- усе, хто хоча больш даведацца аб Іспаніі і спрыяць пашырэнню кантактаў. Старшынёй ТБІ абраны дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі дванаццатага склікання Алег Трусаў.

Цяпер усе жадаючыя маюць магчымасць бліжэй пазнаёміцца з дзейнасцю ТБІ са старонак газеты. Тут шмат цікавай і карыснай інфармацыі. На першай паласе змешчаны артыкул міністра знешніх эканамічных сувязей Міхаіла Марыніча "Беларусь–Іспанія: ёсць пачатак эканамічнага супрацоўніцтва". Значнае месца ў газеце надаецца асвятленню культурнага супрацоўніцтва. Ну а хто зацікавіўся дзейнасцю ТБІ, можа даведацца са старонак газеты, як стаць яго сябрам. Нарэшце, газета -- вельмі добры шанц папрактыкаваць як іспанскую, так і беларускую мовы.

Усю дадатковую інфармацыю можна атрымаць па адрасу: **Мінск, вуліца Захарава, 28.**

*ПАСЛЯ ПРАГЛЯДУ НОВЫХ ДАКУМЕНТАЛЬНЫХ СТУЖАК*

# НАРАДЗІЛІСЯ ЛІЦЬВІНАМІ...

А[illegible]нім часам прыкметна ўзрасла цікавасць грамадск[illegible] да гістарычнага мінулага нашай краіны, да людзей, якія ствараюць ёй гонар. Пра гэта сведчаць і прэм'еры дакументальных фільмаў, што час ад часу наладжваюцца Саюзам кінематаграфістаў сумесна з Саюзам беларускіх пісьменнікаў у сталічным Доме літаратара. Сустрэчы з стваральнікамі, прагляд і абмеркаванне фільмаў збіраюць вялікую аўдыторыю. Так было і на гэты раз, калі дэманстраваліся дзве новыя стужкі рэжысёра Рычарда Ясінскага, -- "Паланез для касінераў" па сцэнарыі гісторыка Уладзіміра Емяльянчыка і "Душа не падарожніца" па сцэнарыі пісьменніка Яўгена Лецкі. Першы фільм распавядае пра вядомага ва ўсім свеце Тадэвуша Касцюшку, нашага земляка з Берасцейшчыны. Значную частку свайго жыцця ён правёў далёка ад Радзімы. Спачатку гэта была вучоба ў Варшаўскім кадэцкім корпусе і Парыжскай ваеннай акадэміі, а пасля -- змаганне за свабоду і незалежнасць народаў Злучаных Штатаў Амерыкі, Францыі, Польшчы, Беларусі, дзе праявіўся ваенны і палітычны талент Касцюшкі. Памяць пра яго як нацыянальнага героя ўшаноўваецца ў розных краінах свету. Ён ганаровы грамадзянін Францыі. Яму пастаўлены помнікі, прысвечаны творы жывапісу, скульптуры, мастацкай літаратуры. А на Радзіме героя толькі ў 1994 годзе ўпершыню адзначаліся 200-я ўгодкі вызвольнага паўстання на Беларусі, кіраўніком якога быў Тадэвуш Касцюшка. Створаны грамадскі Нацыянальны арганізацыйны камітэт па ўшанаванні памяці герояў паўстання. Дасць Бог, Беларусь скарыстае свой гістарычны шанец і пабудуе незалежную дзяржаву, за якую змагаліся лепшыя яе сыны. Фільм "Паланез для касінераў", створаны беларускімі кінематаграфістамі да 250-годдзя з дня нараджэння Тадэвуша Касцюшкі, вяртае на Бацькаўшчыну аднаго з забытых дзеячаў нашай гісторыі.

Другая стужка "Душа не падарожніца" для многіх удзельнікаў гэтай прэм'еры стала адкрыццём новага імя. Гледачы даведаліся пра Барыса Кіта, знакамітага ва ўсім свеце вучонага ў галіне астранаўтыкі. Барыс Кіт -- наш сучаснік, грамадзянін Амерыкі. З 1972 года жыве ў Нямеччыне. Шчаслівы, што праз 50 гадоў адлучэння ад Радзімы ён меў магчымасць наведаць сваю родную Навагрудчыну, сустрэцца з землякамі. Барыс Кіт жыве ідэяй стварэння нацыянальнага універсітэта на Беларусі і робіць дзеля гэтага ўсё магчымае.

Перад гледачамі выступіў аператар Леў Слобін. Ён распавёў аб працы над фільмамі, аб незабыўных сустрэчах з вялікім вучоным, такім простым і сціплым у жыцці, адказаў на пытанні.

Зала цёпла вітала роднага брата Барыса Кіта -- Лёву, Лідзію Савік, аўтарку кнігі "Вяртанне: жыццяпіс Барыса Уладзіміравіча Кіта", а таксама Язэпа Юхо і Уладзіміра Емяльянчыка, аўтараў кнігі "Нарадзіўся я ліцьвінам..."

Прэм'ера фільмаў -- значная падзея ў культурным жыцці нашай краіны. Застаецца толькі пажадаць ім лёгкага шляху да шырокай аўдыторыі гледачоў.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА.**

# З РОДУ КАРАФА-КОРБУТАЎ

Сутыкнуўшыся ўпершыню са згадкай пра спявачку Наталлю Карафа, міжволі падумаў пра беларускія карані славутай у свой час артысткі. І, канешне ж, на памяць прыйшлі старонкі з кнігі Генадзя Кісялёва "Радаводнае дрэва". Руплівы і дасведчаны літаратуразнаўца ўключыў у кнігу, у падзалоўку якой пазначана: "Каліноўскі -- эпоха -- наступнікі", цэлы нарыс "Хто вы, Карафа-Корбуты?". Праўда, пра спявачку Наталлю Карафа там усяго толькі адным-двума штрыхамі. Вось што, у прыватнасці, піша Генадзь Кісялёў: "У канцы XIX -- пачатку XX стагоддзяў на оперных сцэнах Пецярбурга і Варшавы выступала (часам з Шаляпіным) вядомая спявачка Наталля Эдуардаўна Карафа (Карыбут). Гэтае "ы" ў сярэдзіне другога прозвішча вельмі турбуе Юрыя Уладзіміравіча, ён лічыць яго памылкай. Магчыма. Хоць, з другога боку, у гісторыі Беларусі і Польшчы былі вядомыя не толькі Корбуты, але і Карыбуты. І ўсё ж, відаць, праўда на баку нашага летапісца. У кнізе "Музыкальный театр Белоруссии: Дооктябрьский период" (1990) паведамляецца пра сувязі гэтай артысткі з Беларуссю: "Не чужым быў Мінск і для вядомай опернай спявачкі Н.Э.Карафы. Тут на Захар'еўскай вуліцы ў доме N 109 жылі яе сваякі Карафа-Корбуты, і сюды спявачка часта прыязджала на адпачынак пасля стамляльных гастрольных паездак". Наталля Эдуардаўна не раз выступала на мінскай сцэне і нават давала ў Мінску ўрокі спеваў". І далей -- яшчэ адна згадка- адмеціна, што датычыць Наталлі Эдуардаўны: "Як аказалася, быў прыпісаны да мінскіх Карафа-Корбутаў і вялікі бібліёграф Габрыель Корбут. У справах сустракаем адпаведныя прашэнні яго бацькі, важнага пецярбургскага чыноўніка, метрычныя выпісы Габрыеля і яго братоў. Дзядзька Габрыеля надворны, а потым стацкі саветнік Варфаламей Іванавіч стала жыў у Мінску ва ўласным доме на галоўнай Захар'еўскай вуліцы, нейкі час загадваў мінскімі харчовымі складамі вайсковага ведамства. Напэўна, у яго і спынялася спявачка Наталля Карафа".

Дык чым жа вызначальны яе артыстычны шлях?..

Музычную адукацыю спявачка атрымала ў Варшаўскай кансерваторыі, пасля ўдасканальвала, шліфавала сваё меца-сапрана ў Парыжы. Настаўнік -- М.Маркезі. На опернай сцэне будучая "зорка" дэбютавала ў Італіі ў партыі Зібеля. На працягу шасці гадоў спявала ў Падуі, Палерма, Мілане і іншых італьянскіх гарадах. У Мілане з поспехам выканала галоўную партыю ў "Італьянцы з Алжыра" Дж.Расіні. Пазней спявала ў Іспаніі. Наша суайчынніца выступала на сцэнах Барселоны, Алікантэ, іншых іспанскіх гарадоў.

А пасля -- Варшава, Масква. Вядома, што ў Маскве ў Вялікім тэатры Наталля Карафа спявала ў 1892--1893 гадах. У Пецярбургу ж працавала ў 1894--1895 гадах. У тагачаснай расійскай сталіцы сумесна з І.Труфі, Ф.Шаляпіным арганізавала таварыства, якое ставіла спектаклі ў Панаеўскім тэатры. У наступныя гады выступала ў Астрахані, Самары, Саратаве, Уфе, Сімбірску, Мінску, Віцебску, Жытоміры, Смаленску, Пярмі, Варшаве. Відавочна, што Айчыну ўвагай не абыходзіла.

Наталля Карафа з'яўляецца першай выканаўцай у Пецярбургу партыі Даліды ("Самсон і Даліла"). Сярод партый, у якіх выключна праявілася выканальніцкае майстэрства нашай зямлячкі, -- Ваня ("Жыццё за цара" М.Глінкі), графіня ("Пікавая дама"), Фаварытка, Арсіні, паж Керубіна, Амнерыс, Азучэна, Маддалена, Кармэн.

У розныя гады партнёрамі Наталлі Карафа былі М.Агулін, С.Бухавецкі, А.Давыдаў, Я.Любін ды і сам Ф.Шаляпін.

Біяграфічныя звесткі пра спявачку з роду Карафа-Корбутаў увайшлі ў дзевяты выпуск "Слоўніка сцэнічных дзеячоў", выдадзены ў 1902 годзе ў Санкт-Пецярбургу. Але, на вялікі жаль, няма дакладнай падказкі пра гады жыцця Наталлі Эдуардаўны. Ды ўсё адно лёс яе не згубіўся. І сярод усіх Карафа-Корбутаў ёсць у спявачкі сваё прыкметнае месцейка.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



**Мікола АЛТУХОЎ**

## ЦУДОЎНАЯ ЗІМА

**Зара над лесам дальнім**
**Ружовая, як бэз,**
**І на лыжню світальны**
**Зімовы кліча лес.**

**А вецер напявае**
**На ўскраіне сяла:**
**Зіма, зіма якая**
**Прыгожая прыйшла!**

**Імчымся па парошы**
**Іскрыстай раніцой**
**З табой, маёй харошай,**
**Адзінаю маёй.**

**Шчаслівы, пагляджаю**
**Я на цябе адну:**
**Зіма, зіма сівая**
**Паслала мне вясну.**

**Дарогаю бясконцай**
**Імчымся ў саснях,**
**І расцвітае сонца**
**Над лесам і ў грудзях.**

**І песня не змаўкае**
**Ў душы у гэты час:**
**Зіма, зіма якая**
**Цудоўная у нас!**



**Вядомая цыркавая артыстка, выдатная эстрадная танцоўшчыца Таццяна Зіневіч з Брэста працуе на сцэне з рознымі вострымі прадметамі, ходзіць басанож па бітаму шклу. Не бярэ яе і агонь, калі яна абводзіць цела палаючым факелам.**

**Майстэрства Таццяны ацэньвалі не толькі ў нашай краіне, яна з поспехам выступала ў Польшчы і Германіі.**

**НА ЗДЫМКАХ: Таццяна ЗІНЕВІЧ у час танца.**

*СПОРТ*

## ПАКУЛЬ — БЕЛАРУС

Усё вяртаецца на кругі свае. Шмат гадоў запар лёгкаатлет Эдуард Хямяляйнен, сярэбраны прызёр некалькіх чэмпіянатаў свету, удала выступаў за зборную Беларусі. Жыве ён у Гродне. Праўда, пакуль. Бо вядомы лёгкаатлет ужо зрабіў заяву, што мае намер вярнуцца на зямлю бацькоў -- у Фінляндыю. Але гэта адбудзецца толькі пасля Алімпіяды ў Атланце.

Так што мы яшчэ будзем чакаць чарговага медаля ў скарбонку зборнай Беларусі.

## РЭКОРД, ЯКІ НЕ ФІКСУЕЦЦА

Прадстаўнічы міжнароны турнір стралкоў Еўропы і ЗША прайшоў у Мюнхене. Нашу рэспубліку прадстаўлялі 12 лепшых спартсменаў, кандыдатаў на паездку ў Атланту на Алімпійскія гульні.

Ужо ў першы дзень спаборніцтваў Анатоль Кліменка ўстанавіў сусветны рэкорд: 698,1 з 700. Але, на жаль, міжнародная федэрацыя гэта дасягненне не зацвердзіла, бо па ўмовах трэба такіх вынікаў дамагацца або на першынстве Еўропы, або на сусветных чэмпіянатах.

Вельмі добра ў Германіі выступілі і іншыя члены зборнай Беларусі: Канстанцін Лукашын, Лаліта Мільшына, Юлія Сіняк.

## ПАМЯЦІ І. РАБІНА

Ізраільскі культурны цэнтр у Мінску стаў ініцыятарам шашачнага турніру, прысвечанага памяці прэм'ер-міністра Іцхака Рабіна. У спаборніцтвах прынялі ўдзел амаль усе мацнейшыя спартсмены Беларусі.

Усе прызавыя месцы занялі былыя чэмпіёны рэспублікі: Аркадзь Плакхін, Барыс Агашын і Юрый Файнберг.

## НЕ ЗДАЕ ПАЗІЦЫЙ

На чарговым этапе розыгрышу Кубка свету па фрыстайлу, што прайшоў у Канадзе, мінчанін Васіль Вараб'ёў, хоць і заняў сёмае месца, але ў агульным заліку па суме ўсіх выступленняў уваходзіць у групу лідэраў.



**Галоўнаму трэнеру Віцебскай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы па скачках на батуце, заслужанаму трэнеру рэспублікі і СССР Уладзіміру Швальбо за падрыхтоўку чэмпіёнаў і прызёраў фінальных спаборніцтваў Кубка свету і чэмпіянату Еўропы 1995 года прысвоена званне "Ганаровы грамадзянін горада Віцебска". З прысваеннем звання Уладзіміра ШВАЛЬБО павіншаваў мэр горада Міхаіл ГРЫГОР'ЕЎ (на здымку).**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**


Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 140. Падпісана да друку 5.2.1996 г.